Цана 25 гр.

# ЗОЛАК

ГОД II ВІЛЬНЯ, САКАВІК 1934. №1(4)

# ЗОЛАК

ОРГАН МАЛАДОЙ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ДУМКІ

ГОД II ВІЛЬНЯ САКАВІК 1934 №1 (4)

## ДВА ШЛЯХІ

Апошнімі часамі беларускае грамадзянства напалову сьпячае, напалову дрэмлючае – разбудзілася. Разбудзілася толькі на хвілку, каб потым, як відаць, ізноў заснуць, не зрабіўшы належных высноўкаў.

Штуршком да разбуджаньня явоад духовага сну паслужылі арышты ў Савецкай Беларусі правадыроў былай Грамады і клюбу Змаганьне: Дворчаніна, Гаўрылыка, Волошына, Рак-Міхайлоўскага, Мятлы, Каханoвіча, Бурсевіча і інш.

Арышты беларусаў у Саветах – рэч нянова, але гэтыя арышты ёсьць амаль цалком незразумелыя для шырэйшага грамадзянства і выклікаюць у яго вялікае зьдзіўленьне. Арыштавалі якраз тых, якія былі ў Заходняй Беларусі самымі рэжучымі староньнікамі бальшавізму, якія, будучы пасламі польскага Сойму, так шчыра і сьмела агітавалі на карысьць бальшавікоў, за што няраз цёмныя сілы зьбівалі іх да крыві, якія за працу на карысьць Саветаў прасядзелі па некальві гадоў у польскіх вастрогах, а адзін з іх, іменна Рак-Міхайлоўскі, выехаўшы ў БССР, з пенаю ў роце дабіваўся для арыштаваных у Менску нацдэмаў кары сьмерці.

Арышты грамадоўцаў у Саветах хоць для многіх і ёсьць нечаканымі, але тымчасам зьяўляюцца зусім зразумелымі для тых, хто уважліва сочыў за тактыкай бальшавікоў. Нішчэньне бальшавікамі беларускае актыўнае палітычнае сілы, навет сацыялістычнае і рэвалюцыйнае, практыкавалася ужо ад даўжэйшага часу. Падобную тактыку, якую цяпер бальшавікі застасавалі да паслоў былое Грамады і клюбу Змаганьне, яны ўжо раней ужылі ў адносінах да Беларускай Партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў.

У часе вялікае расійскае Рэвалюцыі пасьля развалу Беларускай Сацыялістычнай Грамады паўстала Беларуская Партыя Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў, якая распачала заўзятую барацьбу супроць узброенага капіталу, які за усялякую цану імкнуўся зьнішчыць здабыткі Рэвалюцыі, і хоць партыя была касьцьцю ў гор

ле для бальшавікоў,яны аднак не адважыліся пэвясьці адкрыты паход супраць яе,няглядзячы на тое, што ўлада была ў іх руках.І зусім зразумела,бо бальшавікі тады самі вялі войны з белымі арміямі і баяліся,каб барацьба іх з БПС-Р не адбілася ад'емна на іх змаганьні з белымі.Б.П.С.Р.чым далей , тым больш здабывала падтрыманьне ў беларускіх працоўных масах,а дзеля гэтага бальшавікі імкнуліся гэтую яе папулярнасьць выкарыстаць для сваіх мэтаў, у выніку чаго яны запрапанавалі Б.П.С.-Р.пайсьці з імі на супрацоўніцтва,даючы ей некалькі месц у Савеце Народных Камісараў БССР.Аднак кааліцыя гэта не ўдалася,і не удалася дзеля таго,што Б.П.С.-Р.не захацела адмовіцца ад ніводнага са сваіх асноўных социяльна-палітычных прынцыпаў.Яна паставіла бальшавікам рад сваіх вымогаў,прыняцьце якіх цалком забясьпечвала-б прынцыпы трудавой дэмакратыі і не давала-б магчымасьцяў для існаваньня рэжыму диктатуры.Бальшавікі бязумоўна на гэта не згадзіліся,а самі ўтварылі урад бяз удзелу Б.П.С.-Р. Пасьля гэтага разрыву адразу выявілася ўся варожасьць бальшавікоў да Б.П.С.-Р.,але партыя існавала далей і працавала,пашыраючы і паглыбляючы свае ўплывы сярод працоўных гораду і вёскі.І толькі тады,калі вайна бальшавікоў з усімі вонкавымі ворагамі была скончана,калі быў падпісаны мір з Польшчаю,толькі тады яны прыступілі да грунтоўнага нішчэньня эсэраўскіх арганізацыяў шляхам арыштаў,правакацый і г.п.Урэшце савецкая ўлада змусіла беларускіх эсэраў, якія былі на пасадах у савецкіх установах,да самаліквідацыі,арганізуючы г.зв.эсэраўскі ліквідацыйны зьезд Падобная агрэсыўная акцыя бальшавікоў супроць БПСР вялася і на гэты бок рыжскае мяжы,пад Польшчаю. Апошняе абляагчалася бальшавікам тым ,што і польскі урад таксама пачаў стасаваць самыя жорсткія меры супроць гэтае партыі |высяленьне сяброў партыі ў Літву,Беластоцкі працэс 43 у 1923 г.|.У выніку ўсяго гэтага беларуская рэвалюцыйная социялістычная партыя,якая так шмат зрабіла для сацыяльна-нацыянальнага вызвольнага беларускага руху,была нарэшце разгромлена.Частка ідэалягічна-стойкіх сяброў Б.П.С-Р. выэміграбвала за граніцу і там,у Чэхаславаччыі,заложыла заграніЧнае бюро партыі,выдаючы час ад часу свой партыйны бюлетэнь; другая-ж частка актыўных сяброў,застаўшаяся на Бацькаўшчыне,па меры сіл працуе над створэньнем партыйных кадраў,каб у будучыне,пры больш спрыяючых варунках ізноў шырока разгорнуць сваю працу.Агулам кажучы,Б.П.С.-Р.хаця і ня вытрымала напору варожых сілаў,але не скапітуляваала і не пайшла ні з адным з сваіх ворагаў на угоду,ні на кампраміс.

Пасьля разгрому Б.П.С.-Р.у Заходняй Беларусі яе

мейсца,як правадыра беларускіх працоўных масаў,заступіла па нейкім часе нова-утвораная арганізацыя-Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада на чале з послам Тарашкевічам.Ня гледзячы на тое,што гэта партыя воляю лёсу стала спадкаберцам Беларускае Партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў,яна ні чуць ня была падобнаю да свайго папярэдніка,як па сваім заданьням,гэтак і па тактыцы,калі не рахаваць тых некаторых пунктаў праграмы,якія жыўцом былі перанесяны з праграмы Б.П.С.-Р.

Ня маючы сваіх строга акрэсьляных прынцыпаў,Грамада",зразумела,не магла доўга пратрымацца,як не - залежная палітычная партыя.Яна павінна была або развалiцца,або падпасьці пад духовы ўплыў іншае,ідэалягічна-моцнае групіроўкі.Воляю лёсу сталася, што "Грамадою"заапекавалася кампартыя і стала як духовым,гэтак і фактычным яе кіраўніком.Усё,што рабіла "Грамада"ніякім чынам няможна аднесьці да яе творчага генія.Уся слава павінна тут належыць выключна кампартыі.Ня гледзячы на тое,што грамадзяўцы былі фактычнымі служкамі камуністаў,яны ўсёжткі на асаблівую ласку апошніх не заслужылі.Сяньня мы бачым, што тая самая кампартыя нават пасьля таго,як польскія ўлады ўжо даўно "Грамаду"зьлiквідавалі,яе а-канчальна дабівае,саджаючы па турмах грамадаўскіх правадыроў.Як бачым бальшавікі і з "Грамадою",ня гледзячы на яе ўслужлівасьць,паступілі так,як калісьці з Б.П.С.-Р. Розьніца ёсьць толькі ў тым,што супроць апошняе кампартыя пачала самую жорсткую акцыю пасьля Рыжскага міру з Польшчай,а грамадаўцаў узялася душыць падпісаўшы з таею-ж Польшчаю пакт неагрэсыі.Іншымі да поўнай меры былі і лесы сяброў Б.П.С.-Р. і сяброў"Грамады",якія знаходзяцца ў Саветах.У той час,як першых бальшавікі не патрапілі змусіць да чаго іншага,як толькі да самалiквідацыі і то ня ўсіх,дык сяброў "Грамады"заставілі назваць сябе агентамі польскае дэфэнзывы.

З усяго вышэй сказанага відаць,што беларускі сацыялістычна-рэвалюцыйны рух прайшоў ужо два досыць павучальныя шляхі. Першы - шлях самастойны і некампрамісовы,па якім ішла Б.П.С.-Р.і другі - гэташлях "Грамады".Як у першым,гэтак і у другім выпадку беларускі сацыялістычна-рэвалюцыйны авангард,як слабейшы,быў пераможаны.Розьніца толькі ў тым,што Б.П.С.-Р. выйшла з гэтае барацьбы,хаця фізычна і разьбітаю,але затое маральная перамога была на яе баку і яшчэ пытаньне,ці гэтай партыі ізноў ня прыдзецца стаць правадыром беларускіх працоўных масаў; у той час,як "Грамада"бліснуўшы яркім сьветам,аказалася разьбітай,як фізычна,гэтак і маральна.Рух грамадаўскі,якім раней кіравалі бальшавікі,цяпер-жа імі

аканчальна дабіты і на узнаўленьне яго цяпер няма ніякае надзеі. Грамадаўшчыну ўжо трэба лічыць адыйшоўшай да гісторыі. Тая навука, якую беларускія працоўныя масы атрымалі праз "Грамаду", не павінна прайсьці дарма. На двудушную палітыку бальшавікоў беларускі трудавы актыў павінен адказаць самым рашучым і аканчальным разрывам з усімі тымі, якія яшчэ цяпер, сьведама ці нясьведама, супрацоўнічаюць з бальшавікамі.

Ад кірункаў Грамадаўскіх і ім падобных мы павінны рашуча і беззваротна адыйсьці і ўзыйсьці на іншы шлях, ужо выпрабаваны, па якім калісьці ішла Беларуская Партыя Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў.

Стары сац.-рэвалюцыянэр.

:-:-:-:-:

## НАЦЫЯЛІСТЫЧНЫЯ БАЛЯЧКІ.

У канцы сусьветнай вайны і ў першых пасьляваенных часох сацыялістычны рух набраў вялікага размаху і сілы. Яго бурлівая хваля пракацілася амаль-што па ўсёй Эўропе, зьмяняючы ў адной краіне за другою дзяржаўна-палітычныя хвормы. Апрача таго ў некаторых краёх сацыялізму удалося пры помачы рэвалюцыі зьмяніць нават аснову сучаснага сацыяльна-палітычнага ладу. Быў час, калі здавалася, што сацыялізм ужо выбіўся на торную дарожку і што ён, ня сёньня, то заўтра будзе сьвяткаваць сваю аканчальную перамогу над сьветам капіталістычным. Тымчасам гэтым надзеям ня суджана было так хутка зьдзейсьніцца. Застрашаны і здэзарыентаваны капітал паволі ачнуўся і пачаў гатавацца да контр-наступу. Апошняе яму аблягчылі да пэўнай меры самі сацыялісты, а іменна – сацыялісты-марксысты.

Левае марксыстскае крыло – камуністы, захапіўшы уладу на ўсходзе Эўропы, у колішняй Расіі, завялі як сыстэму урадаваньня самы жорсткі тэрар, і ня толькі супраць клясаў капіталу, але і супраць большай часткі саміх-жа працуючых і сацыялістаў, якія ня былі з імі аднолькавых пераконаньняў адносна будаваньня сацыялізму. Такі нячуваны камуністычны тэрар у б. Расіі паслужыў для буржуазных ідэолёгаў наймацнейшым аргумэнтам супроць сацыялізму. Гэта дало ім магчымасьць усюды сугіраваць небясьпеку чырвонага гвалту, які можа пацягнуць за сабою няўхільна гібель цывілізацыі.

У выніку усяго гэтага вялікія заступы сацыяльна маласьведамых працуючых сталіся адпаведным матэрыялам для зараджэньня і росту фашызму.

З другога боку, – правыя марксысты, г. зв. сацыял-дэ-

макраты,прыйшоўшыя да ўлады ў шмат якіх краёх Эў-ропы,таксама нямала спрычыніліся да ўзросту і акрэпленьня фашызму.Гэтыя сацыялісты,як строгія вызнаўцы тэорыі Маркса лічылі,што капіталістычны спосаб гаспадаркі сам гадуе съведамы пралетарыят і што на пэўнай ступені гэтага росту наступае па закону неабходнасьці сацыяльная рэвалюцыя і ніяк іначай.Дзеля гэтага яны не прыймаюць ніякіх крокаў для зьмены сучасных капіталістычных узаемаадносін,пакідаючы капіталізму сваю справу.Аднак,як гэта ня прыкра, спадзяваньні сацыял-дэмакратаў не апраўдаліся. Нястрымліваны нічым капітал ня толькі не павялічыў колькасьці сацыялістычна съведамага пралетарыяту,а наадварот,яшчэ зьменшыў,бо значная частка гэтага пралетарыяту далучылася да фашыстаўскіх арганізацыяў. Сацыял-дэмакратыя,затуманеная тэорыяй Маркса,доўга ня верыла ў магчымасьць перамогі фашызму.Дыктатура, паводле іхняга пагляду,магла запанаваць толькі ў такіх краёх,як краі колішняй Расіі.Маглі зразумець яе яшчэ ў Італіі,але ў кожным разе не дапушчалі,каб штось падобнае магло здарыцца ў такіх краінах , як Францыя,Нямеччына і Аўстрыя.Тымчасам апошнія падзеі яскрава паказалі,як яны глыбака ў гэтай справе памыляліся.

Гітлераўскі пераварот у Нямеччыне шмат каго а-цьверазіў.Аўстрыйскія сацыял-дэмакраты,пабачыўшы ўсю памылковасьць эвалюцыйнага шляху,рашылі яшчэ папрэвіць справу і паднялі сьцяг збройнага паўстаньня,але ўжо было позна.

Як бачым,дзякуючы слабасьці сацыялізму,фашызм паступенна апаноўвае адну краіну за другою,кяняючы асноўныя дзяржаўныя законы і душачы сацыялістаў.

Што-ж такога прывабліваючага ёсьць у фашызме , якая прынада знаходзіцца на фашыстаўскім кручку, дзякуючы каторай,пад яго сьцягам зьбіраюцца паважныя актыўныя сілы?-Самым галоўным матывам фашыстаўскай прапаганды ёсьць даведзены да крайнасьці нацыяналізм ува ўнутранай палітыцы і імпэрыялізм у палітыцы замежнай.Фашысты цьвердзяць,што матэрыяльнае палажэньне працуючых [illegible] дзяржаўнай можна палепшыць радыкальнымі рэформамі,покуль што не мяняючы сацыяльнае асновы сучаснага капіталістычнага ладу,і што гэтых рэформаў нельга правесьці пры захаваньні прынцыпаў дэмакратычных,а што дзеля гэтага абавязкова патрэбнай ёсьць дыктатура фашыстаў-скай партыі.Зразумела,што змучанае і абяднелае насяленьне розных краінаў лёгка паверыла гэтай дэмагогіі,тым-больш,што яго жаданьняў ня зьдзейсьнілі ні бальшавікі ў былой Расіі,ні ўмераныя сацыялісты у Зах.Эўропе.Апрача таго сацыялісты-марксісты значную частку працуючых ,якую нельга было залічыць да пралетарыяту,проста ігнаравалі.Тымчасам фашызм

у гэтых масах знайшоў наймацнейшую апору. Імкненьне сацыялістаў-марксыстаў надаць сацыялістычнаму руху характар выключна пралетарскі, трэба лічыць галоўнай прычынай няўдач сяньняшніх гэтага руху. Толькі дзякуючы вялікаму засьлепленьню марксыстаў, фашызм сёньня сьвяткуе перамогу, культывуючы зоалягічны нацыяналізм. Ня гледзячы на тоя, што ў многіх краінах нацыяналізм узяў верх, аднак яго ніяк нельга назваць зьявішчам прагрэсыўным. Нацыяналізм трэба адрозьніваць ад сапраўднага нацыянальнага руху. Мы таксама змагаемся за нацыянальныя правы, але мы гэтыя правы прызнаём і другім. Мы кажам, што без нацыянальнага вызваленьня ня можа быць і сацыяльнага, а таксама без забясьпечаньня свабоды нацыянальнай ня будзе забясьпечана свабода сацыяльная. Гэткія нашы нацыянальныя імкненьні і такое разуменьне свабоды нічога супольнага ня маюць з нацыяналізмам. Нацыяналізм - гэта прызнаньне усіх правоў |напат права гвалту| толькі свойй нацыі, адначасна не прызнаючы гэтых правоў другім. Такі зьвярыны нацыяналізм бушуючы ў многіх краінах Эўропы, пачынае даходзіць і да нас. Гэтую ідэалёгію пачынаюць асьцярожна успрымаць нашы хадэкі, а дзеля таго, што заалягічны нацыяналізм пярэчыць прынцыпам хрысьціянства, яны прабуюць называць сябе не хрысьціянскімі, а проста "нацыянальнымі дэмакратамі" |гл. "Бел. Крын." №3-1934|

Апрача таго пачала выходзіць і спэцыяльная фашыстаўская часопісь "Новы Шлях", праўда, даволі блізкая да бел. хадэцкага органу "Бел. Крыніцы".

З чым-жа ў нас пачынае вылазіць фашызм? Якія яго практычныя лёзунгі? - Беларускі фашызм, як і нямецкі, намагаецца нацыяналізм злучыць з сацыялізмам, каб такім чынам лягчэй было зьнішчыць гэты апошні. Другая яго характэрная рыса - гэта варожае адношаньне да справы міжнароднага аб'еднаньня працуючых, а трэйцім асабліва "слаўным" лёзунгам бел. фашыстаў зьяўляецца цьверджаньне, што біццам супраць чужога нацыяналізму няма нічога іншага проціставіць, як толькі такі-ж самы свой нацыяналізм.

Што сацыялізм нельга злучыць з нацыяналізмам, гэта зусім ясна, бо сацыялізм змагаецца за зьнішчаньне усялякага насільля і няроўнасьці, адкуль-бы яны не паходзілі, - ці ад сваіх, ці ад чужых. Варожасьць фашызму да міжнароднага аб'едныванья працуючых ёсь укрытаю варожасьцяй да самога рабочага руху, бо нельга прызнаць, што ў раз'еднаньні - сіла. Астаецца трэйці і, як многім здаецца, наймацнейшы лёзунг бел. фашызму: "супроць чужога нацыяналізму - свой нацыяналізм". Моцным гэты лёзунг выдаецца толькі на першы пагляд, але калі мы яго разгледзім бліжэй, дык будзем змушаны зрабіць зусім іншыя высновы. Ці дзе барацьба паміж дзьвюмя, ці некалькі нацыямі, калі яна

вялася на нацыяналістычным падкладзе,не дабала карысных вынікаў для нацыі слабейшай.Такое змаганьне нават паміж нацыямі аднолькавай сілы да нічога іншага не прыводзіла,як толькі да узаемнага сябезьнішчаньня.Барацьба-ж нацыі слабейшае супраць сільнейшай на падкладзе нацыяналістычным толькі ўмацоўвала нацыяналістычную ўладу нацыі сільнейшай,апраўдывала яе зьвярынае паступоўваньне ў вачох яе грамадзянства.Зусім што іншае атрымліваецца ў міжнацыянальных адносінах,калі адна нацыя падымае сьцяг змаганьня супраць гвалту ўсім напрыкрнўшае ўлады.Ў такіх выпадках перамога бывае не па старане сілы,а па старане праўды.Ў гісторыі шмат такіх прыкладаў,калі народы нават параўнальна слабыя перамагалі ў колькі раз сільнейшага ворага,калі гэты слабейшы народ нёс асвабоджаньне людзкое асабістасьці а не паняволеньне яе.Прыпомнім сабе паходы Напалеона,калі ён амаль-што ў цэлай Зах.Эўропе ня сустрэў супроць сябе і найменшага спраціву.

У канцы мусімо сказаць,што ані фашызм ані падобныя яму кірункі беларускай справе нічым не памогуць.Беларускі народ,як народ тыпова трудавы,толькі тагды пазбудзецца ўсіх злыдняў і будзе сам кавалём свайго лёсу,калі станецца клясава сьведамым і на грунце клясавых інтарэсаў збудуе свае магутныя арганізацыі.

М-н.

-§§§§§§§§§-

## САМААРГАНІЗАЦЫЯ ПРАЦОЎНАГА НАРОДУ.

### І. Жыцьцё - змаганьне.

У віры штодзенных падзеяў,якія бязупынна мяняюцца,бурлівою крыгай працякае жыцьцё чалавека.Наўкола - ў прыродзе і ў людзкім супольстве - адбываюцца розныя зьмены,адбываецца бязупынны рух, як вынік напружанага змаганьня паміж узаемна сабе супярэчнымі сіламі ды іх плынямі.І нідзе няма цішыні -супакою: ўсюды ёсьць чутны грукат руйнацыі старых і будаўніцтва новых падвалін і формаў жыцьця. Усё цячэ,мінае.І калі-б спытацца нават - што ёсьць жыцьцё? - адказ можа быць дадзены толькі адзін : жыцьцё ёсьць рух,сталая зьмена,бязупынны цяг падзеяў.Або інакш кажучы: жыцьцё - змаганьне.

У прыродзе гэта змаганьне адбываецца стыхійна,не ўсьвядомлена у людзкім супольстве - сьвядома і арганізавана: сьвядомасьць бярэ верх,пераважае над стыхійнасьцю.

Жыцьцё чалавека,як самаістай,ніколі непаўтаранай асабістасьці - найвялікшае вартасьці ў сабе са

мой – гэта ёсьць бязупынная творчасьць, паступеннае перамаганьне стыхійных зьяваў прыроды. Гэтым чалавек і адрозьніваецца ад усіх іншых жывых бытасьцяў у прыродзе.

Чалавек, як бытасьць псыха-фізычная, падлягае уплывам розных сілаў прыроды. Але сваей сьвядомасьцю якая сваімі караняімі вырастае з тэй самай прыроды і на вышэйшай ступені разьвіцьця зьяўляецца роўназначнаю сілай прыроды, – пранікае у найглыбейшыя таемнасьці прыродных зьяваў, дае напрамак прыроднаму дзейнічаньню, змушае прыродныя сілы выконываць пляновую працу на ўзбагачаньне і удасканаленьне свайго жыцьця; чалавек, выразшы з прыроды, творыць новыя рэчы і прылады, творыць новыя вартасьці , якіх няма ў прыродзе. Гэтак над прыродным асяродзьдзем вырастае культурнае асяродзьдзе – ўся сучасная цывілізацыя. Чалавек ўзвышаецца над прыродай; чалавек ёсьць узвышша прыроды.

У гэтым сэнсе можамо цьвердзіць; чалавек – тварэц; чалавек заканадаўца прыроды!

*Homo vulgus et sapiens!*

Ведама, гэта цьверджаньне мусімо браць у яго умоўна-абмежаным значаньні. – Далека яшчэ ня усе стыхійныя сілы прыроды пераможаны і апанованы чалавекам. Далёка яшчэ ня ўсе прыродныя сілы ім выкарыстаны для ўзбагачаньня і ўдасканаляньня жыцьця. У значнай меры, у шэрагу прыпадкаў, чалавек падлягае стыхіі прыродных сілаў – плыве па цячэньню. Але няма і ня можа быць ніякага сумніву ў тым, што ў напрамку паступеннага перамаганьня ім сілаў прыроды адбываецца шпаркі поступ.

Гляньма на магутны ўздойм сучаснае тэхнікі. Аб чым гэта сьведчыць? Ці-ж не зьяўляецца гэта найлепшым доказам таго, што чалавек у сваім паступенным разьвіцьці ўсёбольш і больш здабывае сабе ўлады над неабмежанай стыхіяй прыроды; навучаецца яе выкарыстоўваць і прыстасоўваць для здаваленьня сваіх патрэбнасьцяў.

Хіба мы ня бачымо, напрыклад, як рухаецца трактар у полі, які за чалавека выконывае цяжкую працу – гарэ баранує, жне, косіць. А розныя малацілкі, веялкі, усе іншыя сельска-гаспадарскія машыны і прылады. Хіба-ж мы ня бачымо, як на фабрыках і заводах дзясяткі і сотні вялікшых і меншых машын проста аж сапуць за працай, а чалавек, пры гэтым, толькі даглядае, кіруе працаю машыны. Хіба мы не карыстаемся сілаю пары, электрычнае энэргіі, радыё ды іншых сілаў прыроды. – І як, параўнаўча, нядаўна ўсё гэта зьявілася , як шпарка ідзе наперад, як з кожным годам дасканаліцца, якія шырокія магчымасьці суліць ў будучыне: тэхніка зьмяняе ня толькі аблічча зямлі, але і нават ча-

лавека; нават сяньня ужо устанаўліваюцца новыя адносіны паміж чалавекам і прыродай, устанаўліваюцца новыя ўзаемадносіны паміж людзьмі і народамі!

Усё цячэ, мінае - нібы вада ў рэчцы; усё знаходзіцца ў бязупынным руху, усё зьмяняецца, праходзе і ніколі назад не вяртаецца. Нічога няма вечнага, нязьменнага, апрача мо' толькі вялікай тугі ў чалавеку пазнацьпраўду, зразумець і добра ўцяміць увесь гэны складны цяг падзеяў, выкрыць прычыны адбываючыхся зьменаў, знаісьці і ўстанавіць сваё цьвёрдае мейсца ў прыродзе і ў людзкім супольстве.

## 2. Навука, як чыньнік поступу.

Адзін з выдатнейшых пачынальнікаў сучаснага беларускага рэвалюцыйнага народніцтва - Ян Няслухоўскі, інжынер-тэхнолёг па асьвеце, натхнёны буйным росквітам тэхнічных ведаў, шчыра быў пераконаны, ён верыў, што навука прынясе вызваленьне ўсяму чалавецтву. Напісаў верш, які стаў поклічам мільёнаў:

Сонца навукі скрозь хмары цёмныя
Прагляне ясна над нашай нівою.
І будуць жыці дзеткі патомныя -
Доляю новай, доляй шчасьлівою!

Пэўно-ж, каму гэта не ясна, каму не зразумела, што першай і асноўнай падвалінай жыцьця чалавека ёсьць веданьне, веданьне тых абставін, сярод якіх ён знаходзіцца, куды ён кінуты фактам нараджэньня.

Да гэтага веданьня існуючых абставін змушае чалавека інстынкт сябезахаваньня.

У барацьбе за існаваньне чалавек змушаны прыстасоўвацца да існуючых абставін. А каб прыстасоўвацца, трэба іх ведаць. Тым-больш трэба іх ведаць, каб у адпаведны спосаб іх зьмяняць, прыстасоўваць да сябе, да сваіх патрэбнасьцяў.

Праўдзівае веданьне існуючых абставін ёсьць зарукаю ўдачнае дзейнасьці. -Ведаць, каб дзейнічаць!

Але якое веданьне ёсьць праўдзівае!

За праўдзівае веданьне можна уважаць толькі такое, што абапіраецца на фактах жывой рэчаістасьці. Толькі рэчаістае веданьне ёсьць праўдзівае!

Прыкметаю праўдзівасьці, такім чынам, ёсьць рэчаістасьць. Праўдзіва ёсьць тое, аб чым кожны сам можа пераконвацца на уласным досьвядзе. Веданьне з досьведу - гэта ёсьць асноўная падваліна навуковага веданьня. Узапраўдная навука - гэта ёсьць навука з досьведу!

Вось чаму, хто хоча ведаць праўду, павінен шукаць яе ня дзесьці ў небе ці-то ў пекле, не ў надпрыродных зьявах, а ў самой прыродзе, тут-на зямлі, у фактах жывой рэчаістасьці. Бо толькі праўдзівае веданьне фактаў жывой рачаістасьці дае нам змогу знайсці

між імі прычынную залежнасьць, зразумець увесь складны ланцуг бязупынна адбываючыхся падзеяў — а гэта усё, як у прыродзе, так і ў людзкім грамадзтве.

Шуканьне рэчаістае праўды — гэта ёсьць шуканьне навуковае праўды. Толькі навука, як сыстэма рэчаістага веданьня, падымае чалавека на ўзвышша, на тое высокае ўзвышша, дзе homo vulgaris et sapiens абяртаецца ў homo faber.

Дзеля гэтага, хто хоча падняцца на ўзвышша творчасьці, хто хоча плыць супраць цячэньня, — павінен ведаць навуковую праўду.

Навучаймося пазнаваць навуковую праўду з уласнага досьведу!

Канкрэтна: навучаймося ўважліва спасьцерагаць усе праявы жыцьця, уважліва сачыць за ўсімі фактамі жывой рэчаістасьці, за ўсімі зьменамі ў жыцьці чалавечай асабістасьці і ў людзкім грамадзтве, за рознымі хоць-бы і нязначнымі на першы пагляд супярэчнасьцямі, антаганізмамі, узаемнае варажнечы і спрыязьлівых адносін; навучаймося шукаць між рознымі зьявамі іх узаемнага зьвязку, прычыннае залежнасьці. Каб у гэткі спосаб здабытае веданьне адпавядала рэчаістасьці, каб было праўдзівае, мусімо з усей рашучасьцю адкідаць усе бясплодныя лятуценьні і фантастычныя разважаньні, усялякую містыку і мэтафізыку.

Навучаймося спосабу навуковага думаньня!

Навука — гэта адзіная і зусім пэўная зброя ў змаганьні чалавека з прыродай, з усімі злыднямі штодзённага жыцьця!

### 3. Сацыялёгія — навука аб грамадзтве.

Чалавек з маленства жыве ў грамадзтве; у грамадзтве і праз грамадзтва адбываецца і зьдзейсьняецца яго дзейнасьць.

Але якое дзіва: чалавек у грамадзтве іначай выглядае, чымся ў самоце; зусім іначай наступае, калі ён бывае сам, чымся у грамадзтве. Што ўплывае на зьмену яго паступоўваньня?

Возьмем яшчэ адзін прыклад: у розных краёх жывуць розныя народы; у розных народаў — розныя звычкі і абычаі: іншы лад, іншы стыль, іншы смак жыцьця. Чаму так сталася? Якая прычына гэтае зьявы?

Або яшчэ адзін прыклад: існуюць бедныя і багатыя, уладарныя і падуладныя, сільныя і слабыя. Чаму усё гэта? Якая прычына таго, што паміж людзьмі няма роўнасьці?

У розныя часы па рознаму талкавалі і высьвятлялі усё гэта. Адны казалі — то воля боская; а іншыя — такая ўжо доля.

Але з таго часу, як пачало ширыцца паміж людзьмі

навуковае думаньне – спачатку вельмі няяснае, а потым усё больш і больш выразнае, – пачаў спадаць туман розных дагадак.

Цяпер устаноўлена і на аснове спасьцераганьня фактаў жывой рэчаістасьці сьцьверджана, што ў жыцьці чалавека, што ў тым ці іншым яго паступоўваньні істнуе поўная заканамернасьць: на ўсё ёсьць свая прычына.

Досьледам і вывучэньнем заканамернасьці ў жыцьці і дзейнасьці людзкога супольства займаецца сацыялёгія – навука аб супольстве.

### 4. Што ёсьць супольства?

Першае запытаньне, якое зараз-жа ўзьнікае пры вывучэньні супольства і на якое трэба даць выразны адказ: што ўласна маемо разумець пад словам супольства – супольныя зьявы? Ці супольства таксама рэальна істнуе, як, скажамо, людзкая асабістасьць, ці яно зьяўляецца простай сумай людзкіх асабістасьцяў; напрыклад: звычайным мэханічным злучэньнем, вось нібы той гарох у мяху – простай сумаю гарошын? Якое узаемаадносіньне істнуе паміж гордай, самастойнай чалавечай асабістасьцю і магутным, усясільным супольствам? Узьнікае шэраг іншых пытаньняў, якія нельга абмінуць і на якія трэба даць ясныя і зусім выразныя адказы.

Мы сустракаемся, напрыклад, з цьверджаньнем, якое вельмі часта паўтараецца у штодзенным друку: работніцкая кляса, як супольная група. Што гэта азначае? Які канкрэтна-рэчаісты зьмест гэтага паняцьця: работніцкая кляса, як супольная група?

Першае, што адразу нам кідаецца ў вочы, на што мы адразу зьвяртаемо увагу – гэта ёсьць супольства, групаю якога зьяўляецца работніцкая кляса. Ужо гэтым самым мы сьцьвярджаемо, што супольства ня ёсьць нешта суцэльна-адналітае, а складное – яно складаецца з якіхсьці групаў і адной з гэных групаў ёсьць работніцкая кляса.

Як бачымо з гэтага, толькі даўшы адказ на пытаньне, што такое ёсьць супольства, мы зможамо прыступіць да разгляду іншага пытаньня – з якіх групаў ці-то угрупаваньняў яно складаецца, чым гэтыя групы між сабой адрозьніваюцца і да якой з іх належыць работніцкая кляса. А пасьля ўжо, зрабіўшы такі аналіз, мы зможамо прыступіць да разгляду самой работніцкай клясы, як супольнае групы: вызначыць усе тыя асаблівасьці, якімі яна адрозьніваецца ад іншых супольных групаў ці-то угрупаваньняў, клясаў, акрэсьліць яе унутраны склад і, урэшце, – псыхалёгію яе паступоўваньня.

Наш аналіз пачнем з асабістасьці. Аб рэальным і-

стнаваньні чалавечай асабістасьці мы не сумняваемся.Гэта ёсьць відавочны факт.Кожны адчувае і ўсьвядамляе сваё рэальнае існаваньне.Аб усім можна сумнявацца,нельга сумнявацца толькі ў адным - толькі ў тым,што існуеш,жывеш.Гэтак ёсьць відавочны факт рэальнага існаваньня чалавечай асабістасьці. Па аналёгіі - па сабе - мы судзім аб такім-жа рэальным існаваньні іншых людзкіх асабістасьцяў.Усе яны рэальна існуюць,як рэальна існуе наша я- адчуваюць,думаюць,церпяць і маюць асалоду.

Але ці можамо тое-ж самае сказаць аб людзкім суспольстве? Ці рэальнае існаваньне суспольства ёсьць таксама відавочна,як і кожнай чалавечай асабістасьці?

Не, аб людзкім суспольстве мы гэтага сказаць ня можамо.Рэальнасьць існаваньня суспольства ня ёсьць так відавочна,як існаваньне чалавечай асабістасьці.

Ведама,людзкое суспольства існуе рэальна - гэта ёсьць факт жывой рэчаістасьці.Але гэна рэальнасьць ёсьць іншая,асаблівая.

Суспольства ня ёсьць арганізм,як дзе-хто думае,бо ня мае ў сабе у сваёй канкрэтнай рэчаістасьці неабходных органаў адчуваньня і думаньня,ня мае нэрвовай сыстэмы,сэрца і галавы,як гэта ёсьць у кожнага жывога арганізму,а ў тым ліку і ў чалавечай асабістасьці;суспольства ня ёсьць таксама і адно толькі найменьне,абстрактнае паняцьце,якому быццам -то у рэальнасьці нічога канкрэтна-рэчаістага не адпавядае,суспольства ня ёсьць толькі слова бяз ніякага канкрэтнага зьместу.

Абодва гэтыя пагляды на суспольства -суспольства арганізм або яго няма-ёсьць памылковыя,бо як-бы там ня было,а усё-ж такі яно існуе,хоць і не зьяўляецца арганізмам.

Рэальнасьць існаваньня суспольства залежыць ад рэальнасьці сувязі узаемачынных асабістасьцяў.Істнуе гэна сувязь-існуе і суспольства,а дзе яе няма - там няма і суспольства.

Рэальнасьць існаваньня людзкога суспольства , такім чынам,залежыць ад рэальнага існаваньня сувязі узаемачынных людзкіх асабістасьцяў.У гэтым якраз,і ёсьць асаблівая рэальнасьць існаваньня суспольства.

Ужываючы слова „узаемачыннасьць людзкіх асабістасьцяў",мусімо,аднак,ясна адзначыць,што ўласна мы разумеемо пад гэтым словам. Што такое узаемачыннасьць?

|працяг будзе| Т.Г.

## ДА СЬВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ.

Дата 25 сакавіка 1918 г. ёсьць адною з найважнейшых гістарычных беларускіх датаў. У гэты дзень Беларусь была абвешчана вольнай і незалежнай рэспублікай у сваіх этнографічных межах. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі сваей III-яй Устаной Граматай з 25.III.1918г. прагаласіла, што "скінула з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскія цары"... Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржаваю...
– На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелючы зямлю яго на часткі".

Ня глядзячы на тое, што фактычнае палажэньне беларускага народу пасьля абвешчаньня яго незалежнасьці нічым не зьмянілася, аднак праўнае яго становішча значна палепшылася.

Пасьля акту 25 сакавіка усе чыны, якія прыходзілі звонку і якія так-ці інача вырашалі лёс беларускага народу, не рахуючыся з яго воляю, ня можна інача кваліфікаваць, толькі як самы знчавідны гвалт над правам нацыяў на самаазначаньне. Самая-ж формула самаазначаньня гэтым актам атрымала для беларусаў канкрэтны зьмест. Ад гэтага часу усе беларускія незалежныя палітычныя угрупаваньні лічаць магчымым вырашэньне права беларускага народу на самаазначаньне толькі так, як гэтую справу вырашыў акт 25 сакавіка.

-§§§§§§,§§§-

## АГЛЯД ДРУКУ.

### Хадэцыя нас крытыкуе.

Беларуская хадэцыя да гэтага часу вяла змаганьне за ўплывы толькі з кірункам бальшавіцкім і паланафільскім; у гэтым змаганьні яна так прывыкла станавіцца у позу адзінай рэпрэзэнтанткі беларускай незалежнай думкі, што ўсякі іншы незалежны кірунак яна пачынае разглядаць як пасяганьне на яе сьвятыя правы. Зразумела, якое нездаволеньне мог выклікаць выхад нашае незалежнай сацыялістычнай часопісі "Золак". Аднак зьяўленьне першых двух нумароў яго яны прамаўчалі, відаць, спадзяючыся, што гэтая саматужная і да таго кустарным спосабам друкаваная часопісь не пратрывае доўга. Тымчасам "Золак" праўда з перарывамі, выходзіць далей, і не заносіц-

ца на тое, каб ён у хуткім часе свнё існаваньне скончыў. Нічога не парадзіш, трэба на гэтае явішча рэагаваць. І вось пачынаюцца у „Беларускай Крыніцы" сыстэматычныя нападкі на сацыялістаў і сацыялізм наагул а ў №2 за б.г. зьмяшчаецца і "крытычны" агляд №3 "Золаку". Аўтар „крытычнае" зацемкі відаць нічога іншага ня меў на мецце пішучы яе, як толькі ачарненьне нас перад беларускім чытачом, бо агляд гэты характэрызуе адсутнасьць крытыцызму і лёгікі.

На аснове чаго хадэцкі "крытык" робіць такі "забойчы" выснаў, што быццам мы хочам памагчы польскаму ураду утрымаць пры Польшчы Віленшчыну і Горадзеншчыну? Нідзе у нашай часопісі аб нечым падобным не гаворыцца ні проста, ні ўкосна; і кожны, з беларускай прэсай у нас абзнаёмлены, мусіць прызнаць, што "Золак" ёсьць адзінай у Зах. Беларусі часопісяй, якая не шукае сабе у каго-колечы прыхільнасьці і помачы коштам абмежаваньня правоў беларускага народу. Гэта добра ведаюць і хадэкі, але вышэй успомнены вывад робяць яны дзеля таго, што мы, называючы Віленшчыну і Горадзеншчыну землямі беларускімі, крыўдзім літоўскіх імпэрыялістаў. Выходзіць паводле хадэкаў што, калі хто з беларусаў ня ёсьць літвафілам і не выракаецца названых абшараў на карысьць Літвы, той абавязкава павінен быць паланафілам. Ну, і лёгіка-ж!

Далей, у тэй-жа зацемцы, аўтар радзіць нам для адшуканьня выдуманае хадэкамі "залежнае Літвы" "пацікавіцца гісторыяй нашага краю, географіяй, этнографіяй і сучасным яго палажэньнем". - Ні географія, ні этнографія Беларусі, ні яе сучаснае палажэньне палітычнае не змушаюць нас на беларускай этнографічнай тэрыторыі шукаць нейкай-там "Залежнае Літвы".

Што-ж тычыцца гістарычнага права Літвы на беларускія землі, дык падобнае права] калі яго наогуул прызнаваць | маюць беларусы і на Незалежную Літву, бо колішняя літоўска-беларуская дзяржава была супольнаю для абодвых гэтых народаў.

Беларускі "фашызм".

У апошнія часы некаторыя беларускія інтэлігэнцкія колы штораз часьцей пачынаюць хварэць на фашызм. Першыя прыявы гэтае хваробы зьявіліся у прэсе. Гэтак хадэцкая "Б. Крыніца" пасьля новага году відавочна кіруецца у бок фашызму. Апрача таго пачалі выдавацца, праўда, людзьмі з хадэцкага асяродзьдзя і спэцыяльныя фашыстаўскія друкі, як "Новы Шлях" і "Беларусь Працы".

Відаць ужо беларуская доля такая, што да нашага берагу прыплывае ўсё найгоршае... і то, даведзенае да абсурду. Вышэй сказанае можна без ніякае засьцярогі аднесьці да г. зв. нацыяналістычнага органу С. Сарокі "Беларусь Працы". Вядома, што модны цяпер фашыстаўскі нацыяналізм уважае кожнага свайго су-

седа за смачны абед. Паводле гэтае ідэолёгіі "кожны народ толькі тое і можа мець, што выдзярэ у сваіх суседзяў". Тымчасам "Беларусь Працы" лічыць магчымым уважаць сябе за рэпрэзэнтантку беларускай нацыяналістычнай думкі і разам з гэтым прапагаваць самае звычайнае палянафільства, угадоушчыну і пяталізьніцтва.

Ня менш сабе супярэчным зьяўляецца кірунак "Новага Шляху". Гэтую часопісь рэдагуе У. Казлоўскі, які ня так даўно з Акінчыцам выдаваў палянафільскі "Голас Праўды". Як група Акінчыц-Казлоўскі, не зракаючыся свайго палянафільства, можа гадаваць якійсьці беларускі "гітлерызм" – гэта ўжо ёсьць, як відаць, іх собскі сакрэт!

-§-§-§-

Выясьненьне:

У сувязі з весткай пададзенай у №3 за 1933г. час. "Золак", аб тым, быццам Бел. Студ. Саюз мае намер выступіць з АБСА"і што БСС крыецца з гэтым перад АБСА, Урад Бел. Студ. Саюзу УСБ у Вільні гэтым выясьняе, што:

1. БСС быў змушаны выступіць з АБСА |Абеднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў| з прычыны разпараджэньня Міністра В. і П. А. аб студэнскіх арганізацыях з 1.4.1933г, у §27 якога гаворыцца аб тым, што усе студ. арган. м у с я ц ь выступіць з агульна-студэнскіх саюзаў.

2. Аб гэтым выступленьні з АБСА Урад БСС 26.10.33г. выслаў за №30 паведамленьне для АБСА. Паведамленьне гэтае, як відаць з пісьма да нас з 7.12.33г. за №67, АБСА атрымала.

3. 7.11.33г. за №33 Урад БСС выслаў |на падставе § 1 вышэй успомненага распараджэньня| праз Рэктарат УСБ заяву да Міністра В. І. П. А. з просьбай – дазволіць для БСС ізноў належыць да АБСА. Адказу на гэтую заяву БСС дагэтуль не атрымаў.

Старшыня Саюзу з|я – В. Войтэнка.
Сакратар: – Вітаўт Тумаш.

Вільня 25.1.1934г.

Ад рэдакцыі: Цалком згаджаючыся з тым, што палажэньне Беларускага Студэнскага Саюзу ў зьвязку з названым распараджэньнем, якое забараняе Саюзу належаць да АБСА, зьяўляецца сапраўды цяжкім – усё-ж-такі трудна зразумець, чаму Урад Саюзу не паставіў гэтае справы на абмеркаваньне агульнага сходу, бо-ж справу гэтую трэба абмяркаваць і абгаварыць грунтоўна. – Беларускае студэнства вышэйшых школаў у Польшчы ня можа зракацца арганізацыйнае лучнасьці паміж сабою, а таксама з агульна-беларускім студэнскім цэнтрам. Калі-ж гэткае лучнасьці сяньня ня мо-

жа быць праз арганізацыі легалізаваньня школьнымі уладамі, дык трэба яе пашукаць паза межамі сваіх школаў. —У дадзеным выпадку прыкладам можа паслужыць бел. студэнства ў Чэхаславаччыне, таварыствы якога існуюць або пры іншых інстытуцыях, або самастойна на правох звычайных грамадзкіх арганізацыяў.

Настаў час, калі беларускі студэнт у Вільні мусіць надзеле паказаць, што цьверджаньне: "у арганізацыі — сіла" ёсьць яго жыцьцёвым прынцыпам, бо інакш, якія-ж тады вымаганьні можна ставіць у адношаньні да нашага селяніна і работніка.

## ХРОНІКА.

—Справа зьмены беларускага правапісу у Б.С.С.Р. Улады Б.С.С.Р. сваім дэкрэтам з дн. 28.7.1933 году увялі ў беларускі правапіс і практычную граматыку шмат зьменаў, якіх не вымагалі ні патрэбы практычныя, ні тым-больш матывы характару філёлёгічнага. Рэформа праведзена выключна з мэтаю палітычнай, а іменна з мэтаю русыфікацыі беларускае мовы; яна выкідае галоўныя граматычныя асаблівасьці бел. мовы, уводзячы на іх месца асаблівасьці характэрныя мове расейскай.

Супраць гэтага новага гвалту бальшавікоў усе беларускія інстытуцыі і грамадзкія установы ў Заходняй Беларусі, за выключэньнем хіба тых, якія бязкрытычна прымаюць усё, што-б у Б.С.С.Р. рабілася, вынясьлі свае пратэсты.

—"Іскрай Скарыны" №3, 1934 г., органу Беларускага Культурнага Т-ва ім. Фр. Скарыны ў Празе выйшаў з наступным зьместам: Пад сьцягам Скарыны. "Загада слоў-народ і нацыя"— Б. Карусь. "На два фронты"— Т. Грыб. "Усё для Народу." — Паўстанец. Літэратурны аддзел. Агляд друку. "Даўка"— Др. Я. Ермачэнка. "У 50-я угодкі часопісі "Гоман"—Др. Т. Грыб. Бібліографія. Т-ш Хроніка. Адрас: Praha-Dejvice, č.p. 548. Č.S.R.

—У апошнія часы выйшаў №1 новай часопісі ў бел. мове п. н. "Літэратурная Старонка", якая, рэкамэндуючы сябе грамадзянству, абзывае нашую часопісь фашыстаўскай, віддаць за нашае крытычнае адношаньне да бальшавіцкай палітыкі. Трэба судзіць, "Л. С." асьмеліваецца кідаць такую ілжу, разьлічаючы на безпрасьветную беларускую цемнату, бо хто хоць крыху разьбіраецца ў падобных справах і чытаў нашую часопісь, той гэтаму ніколі не паверыць. Дзеля таго пераважна мы і разыходзімся з бальшавікамі, што яны ў Саветах завялі дыктатуру ня горшую ад фашыстаўскай.

Адрас Рэдакцыі: Вільня, Тракт Баторага 10-6.
Рэд.-выд.: А. Аніська.

